ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 39 (95) 25 лістапада - 1 сьнежня 1994 г. Кошт 50 рублёў

*Дырэктар адказаў, што вынясе трэнера з басейну ўперад нагамі.* - ст. 3.

*Мы не змаглі абараніць людзей, якіх бясконца паважалі. Ды і ці магло быць інакш?* - ст. 5.

*Падчас вобыску на кватэры аднаго з ваўкавыскіх злачынцаў знойдзена баявая граната.* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## РАСЕЯ ЛІЧЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАФТАПРОВАД СВАЁЙ УЛАСНАСЬЦЮ

На апошніх перамовах урадавай дэлегацыі Беларусі з расейскімі калегамі ў Маскве здарыўся кур'ёз. Як вядома, частку сваёй запазычанасьці Расеі Беларусь зьбіраецца выплаціць акцыямі ўласных прадпрыемстваў, у прыватнасьці, да магчымага акцыяніраваньня беларускіх газа- і нафтапровадаў. *Наша дэлегацыя паспрабавала* прыплюсаваць магчымасьць акцыяніраваньня Расеяй магістральнага нафтапровада, які праходзіць праз тэрыторыю Беларусі і перакачвае дызельнае паліва, бензін ды іншыя нафтапрадукты да краін Прыбалтыкі і Заходняй Эўропы. Гэтую прапанову беларускай дэлегацыі расейцы ўспрынялі з непаразуменьнем, бо *напамін пра нафтапровад* Расея *лічыць* недарэчным. Нафтапровад, на думку маскоўскіх чыноўнікаў, расейскі.

Начальнік упраўленьня магістральнага нафтапровада спадар Гаеўскі пракаментаваў расейскую заяву так: "20 ліпеня 1992 года ў Маскве старшынёй расейскага "Мінпаліваэнерга" В.Чарнамырдзіным і віцэ-прэм'ерам Беларусі М.Косьцікавым было падпісана пагадненьне, адпаведна якому пасьля развалу СССР частка беларускага нафтапровада адышла да Расеі". Таксама спадар Гаеўскі паведаміў, што Беларусь грошы за транзіт не атрымлівае, бо закон аб транзітным падатку не дзейнічае.

СІМ



## ТЫ ПАДПІСАЎСЯ НА ГАЗЕТУ «ПАГОНЯ»?

*ПАДПІСКА ПРАЦЯГНУТА ДА 15 СЬНЕЖНЯ.*

СКАРЫСТАЙ СВОЙ ШАНЦ!

**Падпісны індэкс 63124.**
**Кошт на месяц - 500 рублёў,**
**на квартал - 1500 рублёў,**
**на паўгоддзе - 3000 рублёў.**

## ПРАДУКТАПРОВАД БЫЎ ЗАЎЖДЫ РАСЕЙСКІМ!

Як паведаміў прэзідэнт дзяржаўнага канцэрна "Белнафтапрадукт" спадар Лойка, беларускі ўчастак прадуктапровада, па якому перакачваюцца нафтапрадукты з Расеі ў Латвію, ніколі не належыў Беларусі. Па яго словах, пасьля распада Саюза, у Бішкеку было падпісана пагадненьне краін СНД, па якому ўласнасьць любой з рэспублік на тэрыторыі другой застаецца ў распараджэньні ранейшага ўласьніка. Улічваючы, што прадуктапровад, у адрозьненьне ад газапровадаў і нафтапровадаў, знаходзіўся ва ўласнасьці не саюзнага, а расейскага ведамства, то ён так і застаўся расейскім.

Віцэ-прэм'ер В.Кокараў заявіў наконт гэтага, што "мы спрабавалі выправіць сітуацыю, але там усё юрыдычна правільна".

## БЕЛАРУСЬ: ОПТАМ І Ў РОЗЬНІЦУ

Да першага сьнежня Беларусь абавязана прадставіць Расеі сьпіс прадпрыемстваў, акцыі якіх пойдуць на пагашэньне запазычанасьці за расейскія энерганосьбіты. Пра гэта паведаміў віцэ-прэм'ер краіны В.Кокараў. Па яго словах, урад ужо прапаноўваў расейскаму боку сьпіс прадпрыемстваў, якія б маглі быць акцыяніраваны. Аднак гэтая прапанова не задаволіла расейцаў.

А.Кокараў сказаў, што да вызначанага часу ўрад гатовы падрыхтаваць новую прапанову, якая ўтрымлівае аб'екты ўласнасьці, якія цікавяць Расею. Гэта, у асноўным, прадпрыемствы нафтахімічнага комплекса, газапровады, нафтапровады і прадпрыемствы электратэхнічнай прамысловасьці, якія раней выпускалі прадукцыю для патрэб абароны. Зараз Беларусь павінна Расеі 460 мільёнаў долараў, з якіх 420 мільёнаў за газу і 40 - за нафту.

## ВЕТЭРАНЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

*22 лістапада адбыўся сход сяброў Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў ЖЭСа N 15 г. Горадні.*

*На ім абмеркавалі статут аб'яднаньня, пытаньні эканамічнага і палітычнага становішча ў Рэспубліцы Беларусь.*

*Напрыканцы сходу была створана першасная суполка Дэмакратычнага аб'яўнаньня ветэранаў. Старшынёй суполкі абраны А.А.Цыхун, намесьнікам - І.Л.Лазаровіч.*

Г.Д.

## ПАЦЯРПЕЛІ З-ЗА ПРЭЗІДЭНТА

Ад 21 лістапада ўрадам атрымана афіцыйнае паведамленьне Міжнароднага валютнага фонду. У ім паведамляецца, што 15 сьнежня, як меркавалася раней, пытаньне аб выдзяленьні рэспубліцы крэдыта STAND BY і другой часткі крэдыта з фонду сістэмных пераўтварэньняў (CTF) разглядацца не будзе.

З паведамленьня МВФ вынікае, што прычынай адмовы ў прадастаўленьні фінансавай дапамогі стаў указ Прэзідэнта Беларусі аб зьніжэньні цэн.

СІМ

# ПЕРАМОГА

**У шматлікіх лістах у "Пагоню" і іншыя газеты настаўнікі-філолагі Гарадзенскай вобласьці выказалі свой непакой за лёс дацэнта кафедры рускай і замежнай літаратуры Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсітэта М.А.Мельнікава, педагога і вучонага, удзельніка ВАВ, які 30 жніўня бягучага года быў звольнены з працы. "Як здарылася, - пісалі слонімскія настаўнікі, - што з ВНУ вымушаны быў пайсьці адзін з яго лепшых выкладчыкаў?"**

**Адказ на гэтае пытаньне закліканы быў даць Народны суд Ленінскага раёна Горадні пад старшынствам З.Нікольскай, які адбыўся 17 лістапада.**

У сваім выступе на судовым паседжаньні М.Мельнікаў сказаў, што ён больш трыццаці гадоў таму пачаў працаваць у ГрДУ. Па яго словах, рэктар універсітэта ў ліпені двойчы запэўніваў, што працоўны дагавор будзе працягнуты на чарговы тэрмін. "Скончыўся жнівень. Я, знаходзячыся на бальнічным, рыхтаваўся да заняткаў. Вучні і сябры віншавалі з пачаткам навучальнага года. І раптам званок з аддзела кадраў: я павінен прыйсьці і забраць працоўную кніжку. Звальненьне з падачы дэкана Л.Рычковай і в.а.загадчыка кафедрай Т.Сіманавай матывавалася адсутнасьцю вучэбнай нагрузкі. У сапраўднасьці мая традыцыйная вучэбная нагрузка засталася ў ранейшым аб'ёме", - адзначыў М.Мельнікаў.

Мікалай Аляксандравіч падкрэсьліў, што рэктар сілавым прыёмам перапыніў яго шматгадовую педагагічную і навуковую дзейнасьць, пазбавіў магчымасьці працягнуць рэалізацыю распрацаванай ім праграмы падрыхтоўкі студэнтаў-філолагаў да творчай прафесійнай дзейнасьці ў школе. Сьпецкурсы "Актуальныя праблемы вывучэньня літаратуры ў школе" і "Педагагічнае майстэрства" пасьля звальненьня перасталі выкладацца. Засталіся без кіраўніцтва студэнцкі навуковы гуртох і аб'яднаньне настаўнікаў-дасьледчыкаў, якія ён узначальваў шмат гадоў, пад пагрозай закрыцьця аказалася асьпірантура па методыцы выкладаньня літаратуры.

М.Мельнікаў разглядае выгнаньне з універсітэта як помсту за публікацыю ў "Настаўніцкай газеце", за крытычныя адносіны да "перабудовы", якую праводзіць рэктар, за непрыняцьце яго стыля работы і кадравай палітыкі. Таму Л.Ківач і праігнараваў звароты ўнівэрсітэцкіх выкладчыкаў, настаўнікаў, грамадзкіх арганізацый аб аднаўленьні яго на працы.

"Кіраўніцтва ўнівэрсітэта не толькі пазбавіла мяне работы, яно імкнецца зьнішчыць мяне як асобу. Для мяне не важна зарабіць. Навошта я зьвярнуўся ў суд? Я хачу дамагчыся аднаўленьня на працы не толькі для таго, каб абараніць гонар і чалавечую годнасьць, але і для таго, каб не дазволіць разбурыць створаную мною сістэму развіцьця творчага патэнцыяла будучага настаўніка-славесьніка, рэалізаваць тое, што напрацавана мною за многія гады", - падкрэсьліў Мікалай Аляксандравіч.

Першы прарэктар ГрДУ А.Краўцэвіч, загадчык кафедры рускай і замежнай літаратуры Т.Сіманава, намесьнік дэкана факультэта замежных моваў В.Цырлюкевіч, якія прадстаўлялі інтарэсы ўнівэрсітэта, спрабавалі пераканаць суд у законнасьці звальненьня М.Мельнікава. Яны казалі пра тое, што "не было магчымасьці пакінуць яго на стаўцы з-за рэарганізацыі факультэта і скарачэньня набора студэнтаў", што яму прапаноўвалася праца на ўмовах пагадзіннай аплаты, што ўпершыню чуюць аб здачы ім на кафедру індывідуальнага плана на навучальны год.

Заслухаўшы выступленьні істца і адказчыкаў, Народны суд Ленінскага раёна вынес рашэньне аднавіць М.Мельнікава на працы і спагнаць з ГрДУ судовыя выдаткі.

Вялікую маральную падтрымку М.Мельнікаву аказалі сябры Беларускага Народнага Фронта і Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў Горадні, якія прысутнічалі на паседжаньні суда.

А.ДУК.

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## СОЙМЫ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ» І ПАРТЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

**19 лістапада ў Менску прайшлі Соймы БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ. З дакладамі "Аб чарговых выбарах у Саветы і палітычным становішчы ў краіне" выступіў З.Пазьняк, а з садакладам - У.Анцулевіч.**

У дакладзе было зазначана, што нягледзячы на прапановы Фронту аб правядзеньні выбараў па прапарцыянальна-мажарытарнай сістэме, Вярхоўны Савет прыняў выгадную цяперашняй уладзе мажарытарную сістэму галасаваньня. Гэта значыць, што кандыдатаў ў дэпутаты будуць вылучаць палітычныя партыі, блокі палітычных партый, арганізацыі ветэранаў, рэспубліканскія арганізацыі інвалідаў, працоўныя калектывы, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы і сходы выбаршчыкаў сборам 300 подпісаў. Гэта дае магчымасьць уладзе трымаць жорсткі кантроль пры вылучэньні кандыдатаў на прадпрыемствах, рабіць ціск на выбаршчыкаў, ужываць розныя фальсіфікацыі.

Апошнія дзеяньні ўрада і Прэзідэнта Беларусі па зьніжэньню цэн ёсьць нішто іншае, як палітычны фарс. Цэны зноў падымуцца з 1 сьнежня на цукар, з 1 студзеня - на транспарт, сувязь, квартплату. Інфляцыя як павялічвалася, так і павялічваецца, бо ў Прэзідэнта няма кваліфікаванай каманды сьпецыялістаў, якія б былі здольныя на правядзеньне рэформаў на карысьць простых людзей.

Прэзідэнт груба парушыў Канстытуцыю, зьняважліва назваўшы дзяржаўнасьць і суверэнітэт Беларусі "чепухой". З боку Расеі на Прэзідэнта працягваецца моцны ціск наконт падпісаньня выгаднага толькі ёй, Расеі, дагавора аб дружбе, дагавора аб мытным саюзе і аб адмене падаткаў на транспарт, газу, нафту, праезд аўтатранспарта праз Беларусь на Захад.

Таму цяпер самым важным зьяўляецца падрыхтоўка да выбараў.

У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" і прынята пастанова "Аб перарэгістрацыі руха БНФ "Адраджэньне".

Сойм БНФ "Адраджэньне" прыняў рашэньне аб утварэньні камісіі Садзеяньня Беларускай Арміі.

У гэты ж дзень таксама адбыўся і Сойм Партыі Беларускага Народнага Фронта. Ім была прынята пастанова аб перарэгістрацыі Партыі БНФ.

Падкрэсьлівалася, што перад будучымі выбарамі вельмі важна арганізавана правесьці тэрміновую перарэгістрацыю арганізацый руху ў выканкамах.

На працягу аднаго тыдня арганізацыям Партыі БНФ неабходна накіраваць сьпісы і копіі заяваў сяброў партыі ва ўправу Сойма партыі і на працягу 2-х тыдняў правесьці сходы арганізацыі партыі.

**Гарадзенская рада Партыі БНФ зьвяртаецца да ўсіх сяброў БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ прайсьці перарэгістрацыю ў штаб-кватэры БНФ па вуліцы Савецкай, 10, пакой 1-а з 18.00 да 23.00 кожны дзень.**

**К.ЖЫНЬ,**
**Старшыня Гарадзенскай рады, сябра Сойму БНФ "Адраджэньне".**



*"ЦЭНЫ ПАДЫМАЕМ У ПЕРШЫ І АПОШНІ РАЗ!.."*

## НЕ ДАПУСЬЦІЦЬ РАЗВАЛА!

*10 лістапада ў Менску адбылося сумеснае паседжаньне ўправы Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій (БААПР) і ініцыятыўнай групай па падрыхтоўцы правядзеньня новага з'езда асацыяцыі, на якім разгледжана пытаньне аб становішчы, якое склалася ў асацыяцыі пасьля другога з'езда БААПР.*

На сумесным паседжаньні канстатавалася, што другі з'езд БААПР прайшоў з парушэньнямі Статута, не прыняў ніякіх рашэньняў і паўнамоцтвы быццам бы абранага на ім прэзідэнта Е.Г.Кобец-Філімонавай не могуць быць прызнаны. Прысутныя адзінагалосна вырашылі склікаць 29 лістапада Раду БААПР у ранейшым складзе, з запрашэньнем сяброў ініцыятыўнай групы для падрыхтоўкі новага з'езда.

Справа ж у наступным. Беларуская асацыяцыя была створана ў 1992 годзе па ініцыятыве чатырох, у той час ужо зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку, рэгіянальных аб'яднаньняў рэпрэсіраваных: Берасьцейскага, Гарадзенскага, Гомельскага, Бабруйскага. У іншых рэгіёнах, у тым ліку ў Менску, падобных мясцовых арганізацый яшчэ не было. Але на другім з'ездзе, які быў скліканы 30 верасьня бягучага года, аб'яднаньні-заснавальнікі засталіся ў меншасьці. Усе чатыры разам узятыя, былі прадстаўлены 40 дэлегатамі (з агульнай колькасьці - 120), тады, як нядаўна створанае і яшчэ не зарэгістраванае, Менскае аб'яднаньне атрымала 62 мандаты дэлегатаў з'езду. У выніку прадстаўніцтва мясцовых арганізацый стала непрапарцыянальным і несправядлівым, а паўнамоцтвы дэлегатаў не былі правераны мандатнай камісіяй і не зацьверджаны з'ездам.

Сам з'езд быў дрэнна падрыхтаваны і яшчэ горш праведзены. Прэзідыум і пісьменьнік П.Пруднікаў, які вёў яго, не справіліся з мітынговай стыхіяй, прытрымліваньнем рэгламента і ўхіліліся ад прынятага парадку дня. У выніку, з'езд не прыняў ніякіх рашэньняў: ні па справаздачнаму дакладу прэзідэнта асацыяцыі прафесара Г.Штыхава, ні па справаздачы рэвізійнай камісіі, ні па ўнясеньню зьмяненьняў у Статут. Не абраў кіруючыя органы (раду, управу, рэвізійную камісію). Адкрытае галасаваньне па абраньню прэзідэнта праводзілася двойчы і было сфальсіфікавана: у ім прымалі ўдзел, акрамя дэлегатаў з'езду, пабочныя асобы. Такім чынам, ён быў практычна сарваны, а рэспубліканская асацыяцыя аказалася пад пагрозай развала.

У прынцыпе, мы, сябры Гарадзенскага таварыства ахвяр палітычных рэпрэсій, маючы свой Статут, маглі б дзейнічаць у "аўтаномным рэжыме", але не жадаем гэтага. Хочам захаваць адзінства асацыяцыі, у чым нас падтрымліваюць і іншыя рэгіянальныя аб'яднаньні рэпрэсіраваных.

P.S.: Выказваем удзячнасьць культурна-асьветніцкаму фонду "Бацькаўшчына" за аплату выдаткаў на каманьдзіроўку.

**П.ЖУК, сябра ўправы БААПР, старшыня Гарадзенскага таварыства ахвяр палітычных рэпрэсій.**

## ДЫКТАТАРАМ БЫЦЬ НЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА

Старшыня партыі Ўсебеларускага адзінства і згоды М.Шэляговіч пацьвердзіў сваё жаданьне пакінуць шэрагі партыі. Са слоў спадара Шэляговіча стала вядома, што ён напісаў адпаведную заяву, якая пакуль што не разгледжана. Пра прычыны свайго адыходу Шэляговіч згадаў так: "Я прыхільнік таго, што лідэр партыі павінен быць дыктатарам". Па словах Шэляговіча, ён не здольны кіраваць партыяй, дзе іншыя члены кіраўніцтва аддаюць прэарытэт калегіяльнасьці. "Я б пагадзіўся ўзначаліць партыю, калі б вярхоўным кіраўніком быў бы старшыня, а ўсе астатнія безапеляцыйна яму падпарадкоўваліся".

На думку М.Шэляговіча, да шэрагаў партыі павіны залічвацца не проста аднамысьнікі старшыні, а людзі, якім патрэбны настаўнік. "Лідэр - гэта настаўнік і дыктатар", - сказаў напасьледак экс-старшыня.

## С.ГАЙДУКЕВІЧ ЗАНЯЎ ЯШЧЭ АДНО КРЭСЛА

19 лістапада ў Менску адбылася заснавальніцкая канферэнцыя Беларускага Народнага саюза "Ачышчэньне" па падтрымцы барацьбы з карупцыяй і злачыннасьцю. На ёй быў прыняты Устаў арганізацыі і сфарміраваны Вышэйшы Савет, старшынёй якога часова абраны кіраўнік адміністрацыі Народнага руху Беларусі С.Гайдукевіч.

У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел 48 прадстаўнікоў і вабласьцей рэспублікі. Па словах С.Гайдукевіча, яны сабраліся дзеля таго, "каб упарадкаваць спантанна паўстаўшы рух, удзельнікі якога жадаюць рэалізаваць прынцыпы перадвыбарчай праграмы Прэзідэнта Беларусі". Ён не здолеў назваць колькасьць "ачышчэнцаў", адзначыўшы, што "людзі валяць валам. У асноўным гэта моладзь, хаця шмат людзей і больш старэйшых".

Выконваючы абавязкі кіраўніка "Ачышчэньня", С.Гайдукевіч пацьвердзіў інфармацыю аб тым, што дзьве трэціх ад агульнай колькасьці членаў гэтай арганізацыі - людзі, якія прыйшлі разам з ім. На пытаньне аб тым, ці зьбіраецца саюз "Ачышчэньне" напярэдадні парламенцкіх выбараў уступіць у НРБ, кіраўнік адміністрацыі гэтай арганізацыі адказаў: "Вырашаць Вышэйшаму Савету "Ачышчэньня", але хутчэй за ўсё мы выйдзем самастойнай сілай, якую, спадзяемся, падтрымае Прэзідэнт". С.Гайдукевіч адмовіўся ад каментару сваёй заявы аб недаверы кандыдату ў прэзідэнты А.Лукашэнка, зробленай падчас перадвыбарчай кампаніі.

## БУДЗЕ ТАКАЯ ПАРТЫЯ

У сьнежні ў Менску пройдзе заснавальніцкі з'езд Грамадзянскай Дэмакратычнай партыі Беларусі. У аргкамітэт па яго падрыхтоўцы ўваходзіць шэраг дастаткова вядомых людзей, сярод якіх экс-сьпікер парламента рэспублікі прафесар С.Шушкевіч, прадстаўнікі буйнога бізнеса (у прыватнасьці, прэзідэнт канцэрна "Амкадор" В.Шлыньдзікаў), а таксама навуковай і прамысловай эліты, дзеячы культуры (рэжысёр Б.Луцэнка і драматург А.Дудараў).

**СІМ**

## ШТО ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА ГАЛОЎНАЕ?

Прачытаў у "Звяздзе" ад 19-га лістапада інтэрв'ю з Д.Булахавым "Аб галоўнай задачы прэзідэнта..." і задумаўся - няўжо ён сапраўды лічыць, што "галоўная задача Прэзідэнта сёньня, будучы на чале ўлады, - утрымаць яе" (?!) Хіба першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь абраны народам толькі дзеля гэтага? Наколькі мне вядома, галоўнай задачай Прэзідэнта ў любой краіне і ў любы час зьяўляецца кіраўніцтва выканаўчай уладай з мэтай паляпшэньня дабрабыту ўсяго насельніцтва. І калі мэта не дасягаецца (з-за аб'ектыўных ці суб'ектыўных абставін), на наступных ці датэрміновых выбарах да ўлады прыходзіць іншы. Задача ж утрыманьня ўлады як сама мэта, і метадамі "апоры на структуры грамадзтва, якія падтрымліваюць прэзідэнта", - ёсьць нешта іншае...

Можа, прафесійны юрыст Д.Булахаў растлумачыць, што ж рабіць Прэзідэнту Рэспублікі з тымі "структурамі грамадзтва", якія падтрымліваюць Канстытуцыю і Вярхоўны Савет, і тымі народнымі масамі, якія выбралі А.Лукашэнку як альтэрнатыву В.Кебічу (кіраўніку скарумпаванай ўлады)?

Раней у савецкай юрыспрудэнцыі буяла абсурднае, нават з пункту гледжаньня простай логікі вызначэньне-тэрмін: "вораг народу". Падобна на тое, што і цяпер некаторыя псеўдаюрысты і псеўдапамочнікі прэзідэнта "капаюць агарод" з надзеяй выгадаваць пустазельле постсавецкай юрыспрудэнцыі, накшталт "вораг народнага прэзідэнта".

Давер васьмідзесяці працэнтаў выбаршчыкаў, якія галасавалі за Лукашэнку ў другім туры выбараў - надзейная апора для Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на ўвесь пяцігадовы перыяд. Дык чаго панікаваць, сп.Булахаў? А можа гэта Ваша галоўная задача - патроху палохаць прэзідэнта магчымай стратай улады? Калі так, то нічога не атрымаецца, бо А.Лукашэнка не з палахлівых, і перадвыбарчы марафон таму ілюстрацыя. А тое, што ён адважна паехаў лячыцца не куды-небудзь у спакойную Нямеччыну, а бліжэй да Расейскага Каўказу, таксама аб чымсьці сьведчыць.

Як пчаляр-аматар, магу толькі суцешыцца, што сярод паплечнікаў прэзідэнта ёсьць і "нашы людзі" (па словах А.Фядуты падчас выступу ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце, прэм'ер-міністр М.Чыгір таксама мае прыбытак з дваццаці вульляў). Вельмі спадзяюся, што "нашы" маюць іншы погляд на задачы прэзідэнта і таму з Булахаўскага "рая" выйдзе тое, што і павінна атрымлівацца ў выніку дэмакратычнай эвалюцыі нашага беларускага грамадзтва.

**В.ЛУЧКО, сябра БСДГ.**

## ФРОНТ ІДЗЕ Ў НАРОД

12-18 лістапада адбыліся сустрэчы народных дэпутатаў ад апазіцыі з жыхарамі Гарадзеншчыны. У іх бралі ўдзел дэпутаты С.Навумчык і С.Папкоў. Дэпутаты наведалі Ашмяны, Кальчуны, Граўжышкі, Муравана, Ашмянку, Гальняны, Баруны, Жупруны, Кракаўку. Там, дзе пабывалі дэпутаты, былі створаны суполкі БНФ "Адраджэньне". Таксама сустрэліся дэпутаты з кіраўніцтвам раёна, старшынямі калгасаў. Колькасьць ахвочых сустрэцца з дэпутатамі ад апазіцыі часам сягала такіх памераў, што іх не маглі зьмясьціць у памяшканьні. Менавіта так адбылося ў Ашмянах, дзе сустрэчу перанесьлі з кабінета старшыні райвыканкама да залы паседжаньняў.

**М.БАЎСЮК, Старшыня абласной рады БНФ "Адраджэньне".**

ЛІСТЫ

# ЦІ СТАНЕ ШУРЫК АЛЕСЯМ?

## АБО ХТО Ў ХАЦЕ ГАСПАДАР?

*Можа, мае думкі каму-небудзь могуць здацца абразьлівымі і абсурднымі, але тым не менш, калі ўлічыць тое, што мы пакуль жывем у краіне абсурду і бязглузьдзіцы, то расьліннае зерне ў іх нецяжка будзе знайсьці, бо грунтуюцца яны на гістарычных фактах. Калі гіпатэтычна ўявіць размову Лукашэнкі з карэспандэнтам пасьля ягонага знаходжаньня на Антарктыдзе, я асабіста не зьдзіўлюся, калі ён заявіць, што каралеўскія пінгвіны зьяўляюцца братнім народам беларускаму народу, бо яны каралеўскія. Таму, маўляў, патрэбна шчыльная інтэграцыя паміж Беларусьсю і Антарктыдай аж да зьліцьця краінаў у адзіную дзяржаву, бо для "бацькі нацыі", паводле ягонай заявы ад 11 лістапада сёлета, Незалежнасьць - глупства. З упартасьцю, годнай лепшага выкарыстаньня, у які раз ужо Лукашэнка ўдзёўбвае у падсьвядомасьць пакуль нацыянальна несьвядомых людзей адкапаныя на ідэалагічнай памыйніцы Масквы спарахнелыя камуністычна-імперскія міфы пра "братнія" народы, пра няздольнасьць беларусаў самастойна будаваць свой уласны дом, сваю дзяржаву, свой дабрабыт, што толькі разам з Расеяй мы выжывем. Лухта ўсё гэта, шаноўнае спадарства.*

1. Пра так званае "братэрства".

Толькі "браты" маглі ўчыніць жахлівую абструкцыю народу Беларусі падчас Лівонскай ды Паўночнай войнаў. Заліць крывёю, задушыць пятлёю ката памкненьні да незалежнасьці паўстанцаў 1794, 1931, 1864, 1920, 1944-1954 г.г. Толькі "браты" маглі гандляваць беларускімі этнічнымі землямі спачатку пад кіраўніцтвам Леніна, потым Сталіна, Хрушчова. Толькі "браты" маглі асадзіць над Беларусьсю радыеактыўнае воблака падчас аварыі ў Чарнобылі. Сьпіс можна доўжыць.

**2.** З вялікай прыкрасьцю мушу канстатаваць наступнае. У выніку "братэрскіх" адносін паміж Беларусьсю і Расеяй беларуская мова так і не стала роднай для большасьці беларусаў. З царскіх, а потым савецкіх часоў лічылася добрым густам зьдзекавацца з беларускай мовы, культуры. Маўляў, мова мужыцкая, грубая. А ў 1933 годзе адбылася так званая рэформа беларускай мовы, вынік якой жахлівы: зьявілася эрзац-мова, звульгарызаваная на беларускі капыл трасянка. Просты прыклад: абрикос - абрыкос, і гэта пры тым, што ёсьць прыгожае слова "марэля". Можна ўзгадаць мову Вінцука Вячоркі і параўнаць з мовай І.Антановіча, М.Грыба. Класічная беларуская мова - прыгожая мова, таму носьбіты яе ў 30-я гады былі расстраляныя ў сваёй большасьці: Тарашкевіч, Лёсік, Ластоўскі. З гэтага раблю выснову: беларуская мова - расстраляная мова.

Агульнавядома, што самасьвядомасьць у людзей фарміруецца пад узьдзеяньнем мовы. Якая самасьвядомасьць можа быць у чалавека, выхаванага ў атмасферы агрэсіўна-негатыўнага стаўленьня да ўсяго беларускага: мовы, культуры, гісторыі? Адказ просты - сьвядомасьць манкурта. Бог даў народу Беларусі сваю мову. Хто выступае супраць яе, выступае супраць Бога, кім бы ён ні быў, прэзідэнтам, міністрам або селянінам, рабочым. Да Бога трэба зьвяртацца на мове, якую ён даў людзям гэтай зямлі. Ёсьць першая астральная сувязь праз беларускую мову паміж Богам і чалавекам. У наш час прыкмета адукаванасьці інтэлігентнасьці - гэта не дыплом аб вышэйшай адукацыі ў кішэні, а добрае веданьне беларускай, па жаданьню - якой небудзь замежнай мовы. Але гэтых прыкмет у Лукашэнкі я не бачу.

**3.** Цесная інтэграцыя з Расеяй немагчыма з той важкай прычыны, што неад'емнай рысай расейскага менталітэту зьяўляецца імкненьне жыць за кошт іншых народаў, грубей кажучы - на халяву. Так было раней, гэта назіраецца і зараз. Напрыклад, за ўтрыманьне вайсковых базаў і войска на Беларусі, за транзіт Расея не плаціць нічога.

Незалежныя эксперты падлічылі, што Беларусь мела б 6 мільярдаў(!) долараў у год, калі б спагнала належныя грошы. Падзяліце гэтую суму на 10 мільёнаў нашых грамадзян: атрымаецца лічба 600 долараў на чалавека. У маёй сям'і 5 чалавек, вось і атрымліваецца, што яна страчвае 300 долараў. За гэтыя грошы можна шмат чаго набыць. Паўстае пытаньне, з якой Расеяй трэба інтэгравацца: з Расеяй Жырыноўскага? Салжаніцына? Зюганава? Вельмі сімвалічна, што новая імперыя (СССР) ляснула на зямлі Беларусі. Зараз трэба супрацоўнічаць не з Масквой, а напрамую з рэгіёнамі, якія, прыйдзе час, стануць свабоднымі.

Цяпер зьяўляецца новы блеф, накшталт кебічаўскай так званай "рублёвай зоны", фінансава-прамысловых групаў, ідэя і рэалізацыя якіх з трэскам праваліліся ў самой Расеі. Можа, хопіць эксперыментаваць з шматпакутнай Беларусьсю, яе народам? Лукашэнка заяўляе, што мэта яго жыцьця - гэта эканамічны хаўрус з Расеяй. У Кебіча таксама была такая мэта. Чым ён скончыў, мы ведаем.

Расейцы сьцьвярджаюць, што беларусы завінавацілі ім грошы за энерганосьбіты, сыравіну. Ніяк не магу пагадзіцца з гэтым. Рэчы трэба называць сваімі імёнамі. Беларусь была амаль трыста гадоў пад акупацыяй Расеі. Хто верне беларусам мільёны загубленых жыцьцяў у ГУЛАГу, хто верне матэрыяльныя каштоўнасьці, нарабаваную захопнікамі маёмасьць, пабудаваную на касьцях беларусаў на поўначы Расеі ды Сібіры? За Чарнобыль хто заплаціць?

**4.** З дапамогай прэзідэнцкай вертыкалі Лукашэнка зьбіраецца пабудаваць на Беларусі аўтакратычны рэжым, і гэта ў краіне, у якой шматвяковая традыцыя самакіраваньня (Магдэбурскае права). Ад аўтакратыі да таталітарызму - адзін крок. Усялякая форма яго - гэта фашызм, ці то гітлераўскі, ці то сталінскі, ці то лукашэнкаўскі. Прэзідэнцкая вертыкаль - гэта прамы шлях да фашызму.

**5.** Беларусь стаіць перад парламенцкімі выбарамі. Можа, хопіць абіраць розных Самсонаў Самасуяў на вышэйшыя пасады ў нашай дзяржаве? На Беларусі зьявілася шмат усялякіх рухаў фашыстоўска-камуністычнага адценьня, мара якіх - зьліквідаваць незалежнасьць Беларусі. Усялякія СС "Белая Русь", "Сокалы Белай Русі", ЛДПБ, Патрыятычны рух Беларусі - гэта "пятая калона" Масквы. Усе яны - утрыманцы сьпецслужбаў недэмакратычнай Расеі. Няхай яны памятаюць, што нарэшце прыйдзе на Беларусь сапраўдны гаспадар, і ўсе яны атрымаюць выспятка ў тлусты азадак і паляцяць з Беларусі. Няхай памятаюць, што мы ў хаце гаспадары, а не прышлая набрыдзь. Аляксандр, які ўсяго гэтага не зразумее, ніколі не стане Алесям і застанецца Шурыкам.

Жыве Беларусь!

**Алесь ЗАХАРАЎ.**

# ІНВАЛІД НА РАЗДАРОЖЖЫ

Паважаная рэдакцыя. Я, Тамара Ёсіпаўна Міран, жыву ў вёсцы Харужанцы Ваўкавыскага раёна. Ужо працяглы час зьяўляюся інвалідам другой групы. Цяжкае жыцьцё зрабіла мяне глухой, бездапаможнай. Падчас Другой сусьветнай вайны я брала ўдзел у партызанскім руху. У адным з баёў была паранена ў нагу. Больш за год лекавалася за лініяй фронту ў Іванаве. Зараз за мяне няма каму заступіцца. Суседзі з усіх бакоў мяне крыўдзяць. Міліцыянты іх папярэджваюць, а яны ўсё роўна сваё робяць.

Нялёгка адной на старасьці гараваць. Яшчэ складаней пражыць на ту пеньсію, што плаціць мне райсабес. Даведалася, што як інвалід маю права кожны месяц мець 5000 рублёў на апекуна ад райсабесу. Хадзіла не раз, прасіла нашых супрацоўнікаў у райсабесе Ваўкавыску выплочваць мне грошы. Яны вельмі дарэчы адзінокаму чалавеку. Але ў райсабесе глухія да маёй заявы, як і застаюцца глухімі ў нашым райгазе. Дзесяць год стаю на чарзе, але не маю прыроднага газу. Не маю я ў хаце ні вады, ні радыёкропкі. Куды мне дзецца, куды пайсьці? Як галасаваць за Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку, дык знайшлі да маёй хаты дарогу. Прагаласавала, бо паверыла агітатарам, што Аляксандр Рыгоравіч зможа перабароць гэтых хлусьліўцаў, якім гора старой жанчыны, што прыпарка нябожчыку. Не веру я болей абяцанкам, як і не веру, што кіраўніку дзяржавы сапраўды баліць сэрца за адзінокіх.

**Т.МІРАН.**

# ДЗЯКУЙ «ПАГОНІ»

Калі бачу вашу газету ў газетным шапіку, абавязкова набываю. Падабаецца ў газеце амаль усё. Асобныя артыкулы вывучаю, каб потым расказваць іх зьмест знаёмым, скарыстоўваць факты ў дыскусіях. Асабліва да густу другая старонка, тут дапісы як бы дапаўняюць адзін другога. Вядуць нас, беларусаў, да адпаведнага стаўленьня да палітыкаў-кар'ерыстаў. Даспадобы і тое, што "Пагоня" абараняе беларускую ідэю, выкрывае разнастайных ворагаў беларушчыны накшталт Славянскага Сабору "Белая Русь", Саюзу афіцэраў.

Хай ведаюць зламысьнікі, што Беларусь ёсьць каму бараніць. Нашыя патрыёты з БНФ "Адраджэньне", БЗВ, БНА "Правы Рэванш" не дадуць глуміцца з Бацькаўшчыны. Мы, сьвядомыя беларусы, акажам ім і маральную, і матэрыяльную падтрымку, бо нашыя шэрагі апантаных адраджэньнем незалежнай, квітнеючай, эўрапейскай дзяржавы Беларусь усё шырэй і гусьцей.

**М.БАРЫСІК,**
**Пінск.**

# КАЛІ СУМЛЕНЬНЕ ЗАСЬЦІЦЬ ІМУНІТЭТ

*"Паважаная рэдакцыя! Да вас зьвяртаецца калектыў Гарадзенскай ДЮСШ па скачках у ваду, якая месьціцца на правах арэндатара з 1985 г. у Фізкультурна-аздараўленчым комплексе "Юбілейны". Да 1991 года лёс школы быў безтурботны. На жаль, добрыя часы зышлі з прыходам на пасаду дырэктара комплексу дэпутата горсавета спадара Г.Б.Шыдлоўскага. З першых дзён кіраваньня ён заявіў, што яму школа не патрэбна, бо, як кажа сам дырэктар: "Ад школы я маю дробязь грошай, а пакой, што займаюць трэнеры, аддам пад кааператыў".*

*Апошні раз спадар Г.Б.Шыдлоўскі сказаў гэтыя словы 3 лістапада 1994 года.*

*На пачатку траўня сёлетняга года ён уласнаручна не пусьціў навучэнцаў ДЮСШ да будынка комплексу. Заняткаў не было аж два тыдні."*

**Т.М.ПУШКАРОВА, Д.І.ІСРАІЛАЎ, Я.С.ЛАБАНАЎ, В.У.АЎЧЫНЬНІКАВА, В.М.ЛАЎСКІ, Ю.У.ТАРАСАЎ, В.Г.МАЛАФЕЕЎ.**

Гэта радкі з ліста ў рэдакцыю.

Безумоўна, выхадка дырэктара выклікала абурэньне ў кіраўніцтва школы і трэнераў. Распачаў тлець канфлікт. Шыдлоўскі пад выглядам няўплаты за арэнду пачаў выціскаць з аднаго памяшканьня трэнераў да другога, больш горшага. У выніку трэнерскі пакой апынуўся пад лесьвіцай у нейкай душавой каморцы. Кожны панядзелак, як распавядаюць радкі ліста, Шыдлоўскі, выкарыстоўваючы сітуацыю, што басейн не працуе, забараняе скакунам у ваду праводзіць заняткі, што вядзе да зрыву вучэбна-трэніровачнага працэсу. Да таго ж у дырэктара неадпаведнае стаўленьне да дзяцей. Ён дазваляе сабе выкінуць дзіця з разьдзявальні, узяўшы за каўнер. Дазваляе сабе, мякка кажучы, не зусім тактоўныя выслоўі у адрас трэнераў. Асабліва дастаецца старэйшаму трэнеру ДЮСШ Д.Ісраілаву. Ён па нацыянальнасьці узбек, таму Шыдлоўскі любіць казаць у яго адрас: "А ты, чёрная обезьяна, сначала отмойся, прежде чем со мной разговаривать".

Каб яшчэ болей зацьвердзіць сваю сілу, спадар дырэктар без папярэджаньня адчыніў кабінет, дзе знаходзіліся рэчы трэнераў, дакументацыя і інвентар, ды і выкінуў усё на карыдор. На гэты раз кіраўніку басейна ўчынак не зышоў з рук. Сабраўшы выкінутыя рэчы, трэнер Лабанаў запатрабаваў ад Шыдлоўскага памыць іх. На што пры сьведках атрымаў адказ, што ў выпадку непадпарадкаваньня (заўважце, яму, Шыдлоўскаму), ён вынясе трэнера з басейну ўперад нагамі.

Але трэнеры вырашылі не здавацца. Праўда, знайшлі, відаць, не лепшы ход. Каб мець доказы супраць тырана-дырэктара, яны паслалі да Шыдлоўскага трэнера Аўчыньнікаву, папярэдне абсталяваўшы яе схаванай запісваючай прыладай. Але задуманае не ўдалося зьдзейсьніць. Спадар Шыдлоўскі рассакрэціў задуму. І трэнер Аўчыньнікава дырэктарам была працягнута за ногі па падлозе, аб якую моцна стукалася галавой. Спалоханыя калегі выклікалі хуткую дапамогу. Трэнера Аўчыньнікаву зьмясьцілі да шпіталю. На руках трэнер мае заключэньне судовай медэкспертызы аб нанесеных цялесных пашкоджаньнях.

Вось фактычна і ўсё, але бесцырымоннае стаўленьне народнага абраньніка да праблемаў разьвіцьця дзіцячай аздараўленчай фізкультуры выклікае адпаведныя эмоцыі. Цяжка сказаць, чым скончыцца канфлікт, але адно вядома ўжо добра: не заўжды дэпутаты ад народа дбаюць пра той самы народ.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

# САДАВОД-АМАТАР З ХОЙНІКАЎ

Пётр Рыгоравіч Шахрай - інвалід Вялікай Айчыннай вайны, па адукацыі настаўнік біялогіі. Больш за 30 гадоў ён вядзе вопыты па вырошчваньню рэдкіх расьлін. На яго прысядзібным надзеле ў дзесяць сотак можна ўбачыць каля 80 экзатычных расьлін. Сярод іх - абрыкос, айва, ірга, кітайскі лімоньнік, грэцкі гарэх, кізыл, магонія, міндаль, шаўкавіца, шмат сартоў вінаграду ды іншых культур. Дзе ж браў Пётр Рыгоравіч рэдкія гатункі дрэў? Частку - у НДІ, лесгасах, у садаводаў-аматараў, у батанічных садах, з кіраўніцтвам якіх вядзе актыўную перапіску.

Пётр Рыгоравіч не замыкаецца ў сваёй дасьледчай рабоце ў межах прысядзібнага надзелу, а актыўна дапамагае другім, па просьбе высылае саджанцы. Выведзеныя гаспадаром расьліны растуць у садах садаводаў не толькі нашай рэспублікі, але і за яе межамі.



**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ, сябра таварыства аховы прыроды.**

# НА САМЫМ КРАІ МЯЖЫ

Іду ў мінулы чацьвер па вуліцы нашага райцэнтра, а з хлебнай крамы выскоквае мужчына з цэлым бярэмем, як дроў, булак, хлеба і крычыць: "Купляйце танны хлеб! Купляйце танны хлеб!" А ў мяне на душы пацяплела, падумалася: "Вось дык прэзідэнт! Вось гэта дык чалавек! Абяцаў, што жыцьцё палепшыць людзям, і пачаў - з хлеба".

Мяне апанаваў узьнёслы настрой, на лірыку пацягнула. Але ў краму вырашыў не заходзіць, на потым адклаў, бо часу не было. Хаця і памятаў пагаворку: "Хто свой хлеб носіць, той есьці не просіць".

Праз гадзіну зноў апынуўся каля хлебнай крамы, зайшоў палюбавацца на задаволеных людзей, якія купляюць танны прэзідэнцкі хлеб. А там - цана адной булкі аж 600 рублёў! Вось гэта дык сапраўды бацькоўскі клопат!

Назаўтра быў у Менску, а там цэны даўнішнія - 350 рублёў за адзін бохан. Зноў зьдзівіўся. І тут успомніў я свайго сябра, які часта паўтараў нямецкую пагаворку: "Не абурайся, а дзівіся". Праз дзень званю да свайго раённага начальства і чую ў адказ: "Не дзівіцеся таму, што цана булкі хлеба ў Раготна будзе вышэйшая, чым у Дзятлаве, а ў Дзятлаве - вышэйшая, чым у Менску. Такі час".

І тады падумалася мне: што цяпер нам застаецца рабіць? Разумныя людзі раяць толькі дзівіцца, а разумнейшыя і гэтай магчымасьці пазбаўляюць. Прыходзіцца толькі, як у той казцы, сьмяяцца. А гэта ўжо небясьпечна. Сьмеху нават цары баяцца. Пабачым, ці забаіцца яго прэзідэнт?

**Мікола ГРЫШАН,**
**м.Дзятлава.**

## СУМЕЖЖА




# CUTTA CAVAT LAPIBEM

### (КРОПЛЯ ДЗЯЎБЕ КАМЕНЬ)

*Гэты лацінскі выраз найбольш яскрава характарызуе ўсю двухгадовую дзейнасьць Беларускага Рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі. Цалкам грамадзкая арганізацыя, не маючы ніводнага граша датацыі ад ураду, упарта працуе на нашую дзяржаўнасьць, нягледзячы на абыякавасьць кіраўніцтва той самай дзяржавы. Фонд ідзе ў "вярхі", выносіць канкрэтныя прапановы і распрацоўкі, выканаваныя прафесіяналамі высокага класа, але, на жаль, натыкаецца на неўспрыманьне і глухнечу ва ўрадавых кабінетах. Так, напрыклад, было з Канцэпцыяй рэформы мясцовага кіраваньня. Эксперты Фонда вывучалі, аналізавалі вопыт многіх краінаў сьвету, параўноўвалі, дастасоўвалі яго да нашых умоваў і абставінаў. Потым абкатвалі Канцэпцыю праз кансультацыі, нарады, канферэнцыі з удзелам спецыялістаў-тэарэтыкаў і практыкаў мясцовага кіраваньня. Прапанавалі выканаваную работу "каманьдзе прэзідэнта". Але ў каманьдзе хлопцы зухаватыя. Хуценька прыкінулі і зрабілі па-свойму. Праўда, іхняя аналітычная работа прайшла незаўважанай, не чуваць было ні пра абмеркаваньне сярод прафесіяналаў, ні пра нарады з вопытнымі суседзямі. Раз-два, зрабілі жорсткую вертыкаль улады і закрылі справу. Але ўзьнікае пытаньне-сумненьне: ці гэта самая каманда працуе на ўмацаваньне дзяржавы, ці на ўмацаваньне сябе самой?*



Дзейнасьць фонда імя Л.Сапегі працягваецца і выклікае ўсё больш шырокі рэзананс. Фонд нікому нічога не навязвае, ён прапаноўвае, раіць, інфармуе. Крок за крокам, кропля за кропляй. Адна з такіх кропляў - семінар "Мясцовае самакіраваньне: вопыт рэформаў у Даніі, Латвіі і Беларусі", які нядаўна адбыўся ў менскім Доме літаратара (На здымку: адзін з момантаў семінару). Сьпецыялісты фонда, работнікі ўстановаў мясцовага кіраваньня ў размове з латвійскімі і дацкімі калегамі яшчэ раз выверылі свае напрацоўкі і канцэпцыі. Госьці шчыра дзяліліся назапашаным вопытам: латышы ўжо некалькі гадоў праводзяць карэнную перабудову мясцовага кіраваньня, у Даніі буйная рэформа адбылася яшчэ ў 1970 годзе.

Прынамсі, праблемы Латвіі і Беларусі падобныя. Гэтыя краіны выйшлі з адной сістэмы. У латышоў цяжка праходзіць дэцэнтралізацыя ўлады (і мы гэтага не мінем). Не усе зробленыя крокі латышы лічаць удалымі, прыклад - ліквідацыя раёнаў у сталіцы, спыненьне мясцовага планаваньня эканамічнага і сацыяльнага развіцьця. "Дэпутаты латвійскага парламента ў пытаньнях самакіраваньня не болей адукаваныя, чым народ у цэлым", - лічыць Марыс Пуніс, кіраўнік Дэпартамента праблемаў самакіраваньня.

Праблемы дацкага мясцовага самакіраваньня крыху іншага кшталту. Датчане працуюць над тым, як найдакладней улічыць інтарэсы ўсіх мясцовых групаў насельніцтва, і як яшчэ больш перадаць улады ад цэнтра на месцы. У Даніі зараз тры ўзроўні дзяржаўнага кіраваньня: урад, рэгіёны, муніцыпалітэты (усяго на 5 млн. жыхароў - 14 рэгіёнаў і 273 муніцыпалітэты). Не спыняюцца дыскусіі аб аптымальным падзеле функцыяў паміж гэтымі трыма ўзроўнямі. Дацкая сістэма працуе добра яшчэ і таму, што карыстаецца даверам сярод усіх слаёў насельніцтва.

Чым жа дацкі вопыт прыдатны Беларусі? Адказ прагучаў у выступе Старшыні Экспертнай Рады Фонда імя Сапегі прафесара Гарадзенскага ўніверсітэта сп.М.Сільчанкі: "Мы павінны не капіраваць дацкую сістэму, а выкарыстаць яе логіку".

Чаму нешэраговыя прадстаўнікі дзяржаўнага апарату дзьвюх балтыйскіх дзяржаваў прыехалі на запрашэньне грамадзкай арганізацыі? Відаць, таму, што наш дзяржаўны апарат такімі праблемамі не надта займаецца. Віцэ-мэр Менску сп.А.Гурыновіч адзначыў так: "Над праблемамі мясцовага самакіраваньня дзяржаўныя сьпецыялісты працуюць ва ўсіх краінах сьвету, акрамя нашай".

Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі працягвае сваю працу. Гэта праца на перспектыву, якая раней ці пазьней прынясе плён. Крок за крокам, пакуль сярод цемры не блісьне сьвятло надзеі на перамены і рэформы сістэмы кіраваньня ў нашай дзяржаве.

**А.КРАЎЦОЎ.**

## ФРОНТ НЕЗАДАВОЛЕНЫ РАШЭНЬНЕМ ПА ГАДУЦІШКАХ

Намесьнік старшыні парламенцкай Камісіі па міжнародных справах В.Голубеў заявіў, што дэлегацыя МЗС Беларусі па дэлімітацыі і дэмаркацыі мяжы парушыла даручэньне Прэзідыума ВС РБ, у адпаведнасьці з якім станцыя Гадуцішкі зьяўляецца ўласнасьцю Беларусі і павінна застацца на тэрыторыі рэспублікі поўнасьцю. Ён таксама адзначыў, што летувіскі блок выкарыстоўвае тэрытарыяльную спрэчку за станцыю для падтрыманьня "пэўнага напружаньня ў адносінах з Беларусьсю ў вядзеньні перагавораў аб уступленьні ў НАТА".

Па словах В.Голубева, як толькі Беларусь стала незалежнай дзяржавай і пайшла па шляху дэмакратычных пераўтварэньняў, Летуве было адмоўлена ва ўступленьні ў НАТА. "Зараз Ландсбергіс не саромеецца заявіць, што маскоўскія палітыкі ажыцьцяўляюць пэўныя акцыі рукамі беларускіх палітыкаў. Я не хацеў бы, каб гэта было," - сказаў народны дэпутат.

## ПАПСКІ НУНЦЫЙ У БЕРАСЬЦІ

Горад над Бугам з афіцыйным візітам наведаў Папскі Нунцый, архіепіскап монсіньёр А.Маркета. Пасол Ватыкана сустрэўся з праваслаўным епіскапам Кобрынскім і Берасьцейскім Канстанцінам, старшынёй аблвыканкама В.Бурскім, каталіцкім духавенствам Берасьцейскага дэканата, прыняў удзел у набажэнствах у касьцёле Сьв.Крыжа.

**СІМ**

## ЛЕХ ВАЛЕНСА РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫБАРАЎ

Прэзідэнт Польшчы Л.Валенса заявіў аб намеры вылучыць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах, якія маюць адбыцца ў наступным годзе.

"Паўторна разьлічваць на перамогу - гэта складаная справа, - сказаў ён, выступаючы на прэс-канферэнцыі ў горадзе Буфала (ЗША). - Але ўлічваючы, што ў мяне будзе шырокая падтрымка ад замежнай "Палоніі" і Касьцёла, трэба паспрабаваць шчасьця яшчэ раз".

Таксама Лех Валенса разьлічвае набраць ачкі на выбарах у значным скарачэньні тэрміну ўступленьня Польшчы ў НАТА. На думку прэзідэнта, далучэньне Польшчы да Паўночна-Атлантычнага блоку паспрыяе стабілізацыі ў сьвеце зьнешнепалітычнага курсу афіцыйнай Варшавы.

## БОЛЕЙ ЧЫМ НА ТРЭЦЬ

Камітэт па эканоміцы Савета Міністраў Польшчы зацьвердзіў праект праграмы пашырэньня эканамічнага супрацоўніцтва з краінамі Усходу.

У тры найбліжэйшыя гады мяркуецца перадолець зьніжэньне тавараабароту Польшчы з Летувой, Расеяй, Беларусьсю.

Эксперты праграмы адзначаюць, што за сем месяцаў бягучага году тавараабарот з краінамі СНД узрос на 35 працэнтаў.

На думку тых жа экспертаў, значнае пашырэньне гандлю з былымі брацкімі рэспублікамі СССР істотна аздаровіць эканоміку краіны. Асабліва гэта будзе назірацца ў галіне лёгкай прамысловасьці.

Дарэчы, новы дакумент прадугледжвае шырокае выкарыстаньне ў павышэньні тавараабароту малога і сярэдняга бізнесу.

**(з.д.)**

## ПАРТНЁРАЎ ТРЭБА ШУКАЦЬ НА ЗАХАДЗЕ

У канцы кастрычніка ў Камісіі па прамысловасьці і паслугах насельніцтву ВС Беларусі адбылася сустрэча з калегамі з Камітэту па прамысловасьці Рэспублікі Польшча. Былі абмеркаваны пытаньні, зьвязаныя са станам справў у прамысловай вытворчасьці абедзьвюх дзяржаў і перспектывы развіцьця двухбаковых сувязяў у розных галінах прамысловасьці, забесьпячэньне гэтай дзейнасьці адпаведнымі заканадаўчымі актамі. Дэпутат Сейма Польшчы, старшыня Камітэта па прамысловасьці Ю.Лахоўскі расказаў аб асноўных напрамках інвестыцыйнай дзейнасьці ў сваёй краіне, аб тым, наколькі зацікаўленыя польскія прадпрымальнікі ў развіцьці гаспадарчых сувязяў з прадпрыемствамі Беларусі, у набыцьці шэрагу тавараў суседняй краіны, у тым ліку і па бартэру (грузавыя аўтамабілі, экскаватары, мінеральныя ўгнаеньні) і ў стварэньні сумесных прадпрыемстваў і банкаў.

Беларускія дэпутаты, з свайго боку, выказаліся за цеснае супрацоўніцтва. Так, сакратар Камісіі па прамысловасьці і паслугах насельніцтву У.Новік, адзначыўшы, што ў апошнія гады тавараабарот паміж Беларусьсю і Польшчай зьменшыўся, указаў на магчымасьць значнага яго павелічэньня. Ён прапанаваў стварыць у рамках Камісіі і Камітэта рабочыя групы парламентарыяў, якія б садзейнічалі збліжэньню заканадаўства абедзьвюх краін, забесьпячэньню рэжыму найбольшага добраспрыяньня ў гандлі і прадпрымальніцтве. Гэтая прапанова знайшла падтрымку ў польскага боку.

А ў пачатку лістапада дэпутат ВС РБ У.Новік наведаў Горадню і Беласток і азнаёміўся з рэальнай карцінай беларуска-польскіх сувязяў, дзейнасьцю сумесных прадпрыемстваў. Ён адзначыў, што існаваньне калючага дроту на мяжы з суседняй славянскай дзяржавай, з якой Беларусь зьвязваюць нават больш глыбокія гістарычныя карані, чым з Расеяй, не спрыяе развіцьцю ўзаемавыгадных гандлёвых і гаспадарчых сувязяў. Беларускія і польскія дэпутаты дамовіліся дасканала вывучыць усе праблемы і перашкоды, якія стаяць на гэтым шляху, неабходныя для іх зьняцьця законапраекты.

На другую палову лістапада запланаваны візіт прадстаўнікоў Камісіі па прамысловасьці ВС РБ да сваіх калег у польскі Сейм.

**Н.У.**

## ПОЛЬШЧА ЖАДАЛА Б БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ У ВЫШЭЙГРАДЗКОЙ ГРУПЕ

19-18 лістапада ў Варшаве адбыліся перагаворы прадстаўнікоў парламенцкіх камісій па прамысловасьці Беларусі і Польшчы. Як паведаміў кіраўнік беларускай дэлегацыі народны дэпутат У.Новік, падчас сустрэчы былі абмеркаваны праблемы і перспектывы далейшага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва дзьвюх краін. Польскія парламентарыі таксама закранулі пытаньне аб далучэньні Беларусі да краін так званай Вышэйградзкай групы - своеасаблівага альянса Польшчы, Венгрыі, Чэхіі і Славакіі.

Польскі бок не выключыў магчымасьці стварэньня іншых эканамічных саюзаў дзяржаў Цэнтральнай Эўропы, што, на яго думку, садзейнічала б працэсу больш хуткага "засваеньня" рынкаў "трэцяга сьвету" і зьмяншэньню эканамічнай залежнасьці Беларусі ад Расеі. Спадар Новік таксама паведаміў, што Летува і Украіна ўжо праяўляюць ініцыятыву наконт далучэньня да Вышэйградзкай групы.

Не выключана, што спробы Беларусі зрабіць аналагічнае будуць негатыўна ўспрыняты ў Маскве, бо ў такім выпадку Расея рызыкуе апынуцца паўнасьцю адрэзанай ад эўрапейскага рынку.

**СІМ**

## ААН ІНФАРМУЕ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА

Не так даўно на адрас Эсперанта-асацыяцыі ў Горадні прыйшоў ліст з Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Трэба сказаць, што атрымліваць лісты з-за мяжы для эсперантыстаў - справа звычайная, але з ААН ліст да нас быў упершыню. Калі быць больш дакладным, дык гэта была копія пасланьня прадстаўніка Міжнароднай Асацыяцыі Эсперантыстаў у ААН - Гумфрі Тонкіна да нашага рэпрэзентанта - Генадзя Бураўкіна.

У гэтым лісьце, у прыватнасьці, паведамляецца: "Вам, напэўна, будзе цікава даведацца, што ў студзеньскім нумары часопіса "Эсперанта", найлепшага сярод больш як 200 эсперанта-часопісаў у сьвеце, мы маем прыемнасьць зьмясьціць на старонцы 11 рэпартаж аб верасьнёўскай канферэнцыі ў Горадні, якая пакінула важны сьлед у гісторыі эсперанта-руху. Выстава, зарганізаваная падчас канферэнцыі ў Старым Замку, стала вельмі значнай зьявай, падрыхтаванай маладой Беларускай Асацыяцыяй".

Такім чынам быў праінфармаваны прадстаўнік Беларусі ў ААН аб дзейнасьці нашай асацыяцыі. Яшчэ ў лісьце выказаны спадзяваньне, што афіцыйныя структуры будуць дапамагаць беларускім эсперантыстам чым змогуць. А калі будуць нейкія цяжкасьці, дык хай непасрэдна зьвяртаюцца ў ААН. А нам застаецца толькі паспадзявацца, што нарэшце мы адчуем да сябе падтрымку дзяржавы, грамадзянамі якой зьяўляемся.

**Г.КУРГУН,**
Старшыня Гарадзенскага клуба "Эспера".

## РАЗЖАЛАВАНЫ, ЗАСТРАШОНЫ, АЛЕ ЖЫВЫ

Ёсьць у мяне сусед. Ён некалі служыў у Войску Польскім падафіцэрам. У 1939 годзе змагаўся пад Сувалкамі супраць Чырвонай Арміі. Там жа трапіў у палон разам са многімі сваімі аднапалчанамі.

Нядаўна я сустрэў яго, і ён, нарэшце, праз 55 год маўчаньня, раскрыў адну таямніцу з свайго жыцьця.

Пасьля здачы пад Сувалкамі ў палон польскіх афіцэраў і жаўнераў адвезьлі пад Смаленск. У лясным лагеры наладзілі фільтроўку. Адным словам, афіцэраў ставілі асобна, шэрагоўцаў - асобна. Сусед сьцяміў у гэтай аперацыі НКУС неладнае і сказаў, што ён - шэраговец. Прасіў некаторых сваіх калег зрабіць тое ж самае, што і ён. Гонар сябрам па зброі не дазволіў стаць з падафіцэра жаўнерам. Шыхт, дзе стаялі афіцэры, неўзабаве кудысьці павялі. Болей сяброў сусед не бачыў. Але хадзілі паміж палонных апавяды, што непадалёк асноўнага лагера афіцэрскі шыхт быў расстраляны.

Спазнаўшы пакуты палону і сталінскіх лагераў, сусед больш паўстагоддзя маўчаў. Маўчаў нават пра лёс свайго сябра, таксама падафіцэра з Гарадзеншчыны, які не выявіў такой кемлівасьці. Страх не даваў яму права расказваць пра тое злачынства НКУС пад Смаленскам, сьведкам якога ён быў.

**А.ДУДАР.**

## ТЭРМІН ПРАЦЯГНУТЫ НЕНАДОЎГА

У Польшчы з аднадзённым візітам знаходзілася беларуская дэлегацыя на чале з старшынёю Дзяржаўнага мытнага камітэту. Беларускія мытнікі правялі перамовы са сваімі польскімі калегамі аб часовым падоўжаньні пагадненьня сумеснага кантролю памежных пераходаў.

Тэрмін пагадненьня верагодна будзе дзейнічаць да 15 сьнежня 1994 года. Менавіта ў гэты час адбудзецца візіт у Польшчу прэм'ер-міністра Беларусі М.Чыгіра, які, як мяркуецца, падпіша паўнацэнны міжурадавы дагавор аб сумесным кантролі на памежных пераходах. Праект міжурадавага дагавору абмяркоўваецца раней падчас сустрэчы беларускіх і польскіх памежнікаў.

**СІМ**

СУСТРЭЧЫ

А.Бібікава

# БАРЫС КЛЕЙН: «Я АДЧУВАЮ ПАЧАТАК...»

*Нядаўна "Литературная газета" апублікавала інтэрв'ю з Васілём Быкавым. У ім немалая ўвага ўдзялялася гісторыі больш чым дваццаціпяцігадовай даўнасьці, якая адбылася ў Горадні. Аб гэтым жа ў лютым 1993 года расказвала "Комсомольская правда", а да гэтага - "Неделя", "Чырвоная зьмена", "ЛіМ"...*

*Што ж такога надзвычайнага ў гэтай справе? Чаму яна так хвалявала людзей учора, так хвалюе сёньня? І, напэўна, заўтра не дасьць спакою неабыякавым людзям.*

*Зьвернемся да дакументаў. 20 чэрвеня 1969 года тагачасны старшыня КДБ СССР Ю.У.Андропаў напісаў ліст ў ЦК КПСС аб "нежелательных писателях, поэтах, диссидентах" (пісьмо гэта знойдзена ў архівах маскоўскімі журналістамі). У ім гаворыцца, што ў Горадні ўзьнікла небясьпечная антысавецкая група.*

*"Комитет государственной безопасности Белоруссии располагает данными о политически нездоровых настроениях белорусских писателей - членов КПСС Карпюка и Быкова". Адразу ж даецца характарыстыка і трэцяму ўдзельніку групы - "отъявленному антисоветчику и сионисту" Барысу Клейну, дацэнту, кандыдату гістарычных навук.*

*"Комитетом госбезопасности Белоруссии с санкции ЦК Компартии республики готовятся мероприятия, направленные на предотвращение возможных враждебных акций со стороны названных (Карпюка, Быкава, Клейна. - аўт.) лиц".*

*Мерапрыемствы былі падрыхтаваны і пасьпяхова ажыцьцяўляліся...*

*Праслухоўваньне размоў, выклікі ў КДБ, запалохваньне, пагрозы, шантаж... А аднойчы на вуліцы на Васіля Быкава і Барыса Клейна напалі некалькі чалавек і жорстка пабілі... Тады ж, у 1971-м, Барыс Клейн быў выключаны з партыі і звольнены з працы. Па палітычных абвінавачаньнях яго пазбавілі ўсяго - ступені кандыдата гістарычных навук і званьня дацэнта, забаранілі публікаваць працы, выступаць публічна. Пасьля ачарнілі і выгналі з партыі Аляксея Карпюка. Быкава выклікалі ў КДБ і катэгарычна забаранілі сустракацца з Клейнам...*

*Якую ж небясьпеку адчувалі маскоўскія вярхі? За што, спытаеце, так бязьлітасна распраўляліся з гэтымі людзьмі? Дзеля чаго навешвалі ярлыкі, даймалі, білі па-здрадніцку, з-за вугла? І навошта Камітэту дзяржаўнай бяспекі была патрэбна так дасканала распрацаваная "аперацыя"?*

*Ужо ў сярэдзіне шасьцідзесятых зьявіўся раман Быкава "Мёртвым не баліць", які моцна ўстрывожыў ідэалагічных "босаў". У Васіля Ўладзіміравіча і яго сяброў нарастала трывога за стан у краіне, якую ўпарта паварочвалі да сталінізму. У тую пару я была зусім дзіця і рабіла першыя крокі па гэтай зямлі, бачыўшы вакол сябе толькі яскравыя сьветлыя колеры. Яны ж бачылі іншае. За ілюзорным дабрабытам прымячалі грозную небясьпеку.*

*"Пражская вясна" зьнішчыла надзею на лепшую будучыню. Яна была вельмі кароткай. У жніўні 1968 года савецкія танкі зьнявечылі Чэхаславаччыну. "Усё скончана..." - з адчаем сказаў Быкаў Клейну. Гэтую падзею яны ўспрынялі як глыбокую трагедыю, у той час, калі па краіне кацілася гучнае "ура"!*

*Так, у іх разуменьні гэта быў канец. Яны ўсьведамлялі, што значыў рэальны шанц зьмяніць сістэму: у Чэхаславаччыне пачаліся дэмакратычныя рэформы, і была надзея, што яны пойдуць на Ўсход, што абыйдзецца без войн і галечы, што можна будзе выйсьці з тупіка цывілізаваным шляхам.*

*Вельмі нямногія адносіліся да падзей у Празе са спачуваньнем. У сваёй жа большасьці "савецкі народ" пасьпяхова дапамагаў акупіраваць Чэхаславаччыну. Вось таму такім маналітным было грамадзтва ў сваёй нянявісьці да іншадумцаў.*

*"Гэта пачатак нашай сьветлай будучыні!" - трубіла прэса, крычалі адурэўшыя ад захапленьня партыйныя бюракраты. Хаця многія з іх цьвяроза ўсьведамлялі, што крыецца за "братской помощью чехословацкому народу". З крайняй шчырасьцю адзін з партапаратчыкаў заявіў тады Б.Клейну: "Ты думаешь, мы не понимаем, что чехам будет лучше, если позволить им продолжать реформы? И не только чехам. Но мы знаем, что НАМ будет хуже..."*

*І яны задушылі "пражскую вясну". А разам з ёй тых, хто яе вітаў.*

*Сёньня, праз гады, мы разумеем, што з-за трагедыі ў Чэхаславаччыне наша краіна спазьнілася ў сваім разьвіцьці больш як на дваццаць гадоў. Таму справа аб правінцыяльных "антысаветчыках" В.Быкаве, А.Карпюку і Б.Клейне не сьпісана ў архіў гісторыі.*

*Кім яны ўсё ж такі былі? Пісьменьнік з сусьветным імем, здольны навуковец, літаратар-франтавік... Гэта і давала ім права рабіць прагнозы, прадбачыць вынік агрэсіі. Але іх ганіцелі адказалі: "Не! Адзін - злосны пасквілянт, другі - сіяніст, трэці - нераскрыты агент СД. Менавіта таму яны так ненавідзяць родную Камуністычную партыю і вялікі савецкі народ!"*

*"Дзе ісьціна?" - пыталі сябе многія. На жаль, версія афіцыйных колаў выглядала больш пераканаўча.*

*Барыс Самуілавіч Клейн перанёс амаль восем гадоў палітычнай сьмерці. Інакш як гэта назваць? Пазбавіўшыся ўсяго, ён верыў у сваю правату. Ад яго патрабавалі пакаяньня. Спрабавалі вербаваць у сэксоты, прапаноўвалі рэабілітацыю ў абмен на прозьвішчы людзей, якія распаўсюджвалі "самвыдат". Але ён не стаў здраднікам...*

*Прайшлі гады, і ў 1989-м, калі ва ўсю грымелі фанфары перабудовы, прафесара Барыса Клейна, а таксама пісьменьніка Аляксея Карпюка і прафесара Міхася Ткачова нечакана прылюдна назвалі "изменниками Родины". Партнаменклатуры не давала спакою даўняя гісторыя і, безумоўна, факт, што гэтыя людзі ўсё яшчэ не зламаліся, зноў актыўна ўключыліся ў грамадзкі рух. Абвінавачаньне, кінутае ў адрас Карпюка, Клейна і Ткачова адным з партакратаў на курсах павышэньня кваліфікацыі ў Доме палітасьветы, павісла на доўгія гады. Пяцёра журналістаў-відавочцаў (у іх ліку была і я) далі пісьмовае пасьведчаньне, і "обвиняемые" зьвярнуліся з заявай у суд, каб прыцягнуць паклёпніка да адказнасьці. Аднак суд заяву "изменников" не прыняў, а з пракуратуры адказалі, што падстаў для прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці за паклёп няма (супраць пяці журналістаў яны выставілі восем партработнікаў - таксама слухачоў курсаў, якія, безумоўна, "выгарадзілі" свайго калегу, даўшы ілжывыя паказаньні). Вось мы і не змаглі абараніць людзей, якіх бясконца паважалі. Ды й ці магло быць інакш? Хто кіраваў, той і меў рацыю...*

*"Вы нам мешаете жить", - не раз чулі ў свой адрас Барыс Клейн і яго сябры. Так, яны вельмі перашкаджалі жыць атлусьцеўшым ад дабрабыту "власть имущим". І, аказваецца, не толькі ім. Амаль усім. Бо ў краіне яшчэ была ілюзія дабрабыту: не пуставалі паліцы крамаў, беспрацоўных было мала. А гэтыя людзі сьцьвярджалі: "Мы набліжаемся да катастрофы!" І з усяе сілы імкнуліся зьмяніць ход падзей. Узброеныя толькі словам, не маючыя ніякіх уладарных паўнамоцтваў...*

*Напрыканцы васьмідзесятых прафесар Барыс Самуілавіч Клейн неаднаразова з універсітэцкай трыбуны і праз друк прапаноўваў шляхі пераходу да цывілізаванага рынку, заклікаў не ламаць стары фундамент, будуючы новы дах.*

*Ніхто яго не чуў. Не хацеў чуць... Аляксей Карпюк, выбіваючыся з апошніх сіл, пісаў праўду пра Заходнюю Беларусь, судзіўся з часопісам "Политический собеседник", які зноў узгадаў яму "антысаветчыну". Разам яны дапамагалі Міхасю Ткачову стварыць гістарычны клуб "Паходня". Зноў не зразумелыя абывацелямі, дзіўныя ў сваёй апантанасьці. Няўдачнікі... Таму што мэтаў сваіх яны так і не дасягнулі...*

Болей у Горадні не жывуць ні пісьменьнік Аляксей Карпюк, ні дактары гістарычных навук Барыс Клейн і Міхась Ткачоў.

А. Карпюк памёр, выйграўшы паклёпніцкі працэс, скатаваны няспыннай барацьбой з нашай амаральнай і алагічнай савецкай сістэмай. Пабіты крымінальнікамі, адыйшоў у нябыт цудоўны вучоны і патрыёт М. Ткачоў. А Б. Клейн пакінуў горад і краіну, выехаўшы ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Ужо амаль два гады ён жыве ў ЗША, чытае лекцыі ва ўніверсітэце, займаецца грамадзкімі справамі.

Нядаўна Барыс Самуілавіч гасьцяваў у Горадні, і ў мяне была шчасьлівая магчымасьць сустракацца і падоўгу гутарыць з ім. Мы пачалі размову з артыкула ў "Литературной газете", дзе Васіль Быкаў яшчэ раз узгадаў пра лёс свайго гарадзенскага сябра і пацьвердзіў, што яго апавяданьне "Бедныя людзі" напісана на падставе біяграфіі Барыса Клейна. Натуральна, мы не маглі не вярнуцца да падзей мінулых гадоў...

- Цяпер, пасьля разбурэньня Савецкага Саюза, - распавядае Барыс Самуілавіч, - многія шасьцідзесятнікі перажываюць маральны крызіс. Некаторыя нават раскайваюцца за тое, што рабілі. Канешне, усе мы не без грахоў, усе ў той ці іншай ступені нясем адказнасьць за мінулыя падзеі. Але трэба бачыць і меру адказнасьці кожнага... У мяне быў час падумаць, ці можна нас успрымаць як бяздумных разбуральнікаў? Не! Зьвярніцеся хаця б да майго артыкула "Завтра может быть поздно", апублікаванага ў "Народной газете" у красавіку 1991 года, г.зн. за некалькі месяцаў да путчу і разбурэньня СССР.

Гэта быў заклік першымі пачаць у рэспубліцы канверсію ваеннай прамысловасьці, выкарыстоўваючы да канца магчымасьці няхай паміраючай, але яшчэ існуючай старой сістэмы. Як толькі пойдзе на рынак паток тавараў, пісаў я, можна будзе падумаць аб акцыях, біржах, прыватызацыі, аб многім, што аказалася, на бяду, пустым гукам, бо пад усім гэтым "забыліся" пра структурную перабудову прамысловасьці. І здарылася менавіта тое, аб чым я папярэджваў у гэтым артыкуле: "Нас ждёт скопище покупателей при все более малом числе продавцов. Значит, не рынок, а ограничение и без того мизерного потребления. Полная нищета..."

**- Барыс Самуілавіч, а як здарылася, што вы ад'ехалі за мяжу?**

- Адно магу сказаць дакладна: не матэрыяльныя меркаваньні былі галоўнымі. Па нашых мерках я меў дастаткова сродкаў, каб пражыць тут. Але ж вы ведаеце, што ніхто так і не зьняў з мяне кляйма "изменник Родины". Я проста стаміўся ад бясконцых апраўдваньняў, пагроз, прыніжэньняў. Я больш не бачыў сэнсу жыць там, дзе мяне не хочуць нават цярпець. Вось гэта адзінота, адчуваньне сваёй непатрэбнасьці, чужароднасьці і вызначыла мой выбар.

**- Чаму менавіта Амерыка стала вашым новым прыстанкам?**

- Там жыў і працаваў мой сын. Ён цудоўны юрыст. Шмат чаго робіць для наладжваньня стасункаў з буйнейшымі прадпрыемствамі СНД.

**- Цяжка было засвойвацца на новым месцы?**

- Я перажыў непазьбежную жорсткую настальгію, якая даходзіла да дэпрэсіі. Паступова ўзяў сябе ў рукі. Шмат працаваў, вывучаў англійскую мову, праходзіў апрабацыю як навуковец. Мяне прынялі навуковым супрацоўнікам ва універсітэт Мінесоты. І зноў я адчуў маральную адказнасьць за тое, што адбываецца на Беларусі, асабліва таму, што адтуль прыходзілі зьвесткі адна горш за другую. Я падумаў: можа, змагу прынесьці хоць якую карысьць, і пачаў узнаўляць духоўную повязь з Радзімай, якая розьніца, адкуль ты ёй дапамагаеш?

**- Пачуўшы гэтыя словы, не магу не ўтрымацца ад пытаньня: што вы думаеце пра сёньняшняе становішча ў нашай рэспубліцы? Мабыць, пасьля Амерыкі цяжка ўспрымаць гэтую рэальнасьць?**

- Вы маеце рацыю, такое параўнаньне не мае сэнсу. І таму я не буду паўтараць тое, што зразумела кожнаму: так, Амерыка - найбагацейшая краіна сьвету, дзе няма галодных і распранутых (людзі, якія жывуць у прытулах, ёсьць). Гэта краіна, дзе сярэдняя зарплата складае 2000 долараў у месяц (праўда, маштаб цэн іншы), дзе працуючы чалавек праз шэсьць месяцаў можа купіць аўтамабіль, а праз паўтара года можа засяліцца ва ўласны дом з агародам... Што з гэтага вынікае? Мы ўжо "догоняли", нават "перегоняли" Амерыку. Памятаеце? Таму давайце глядзець праўдзе ў вочы. Трэба бачыць рэальнасьць у рэспубліцы такой, якая яна ёсьць на справе, і думаць, як палепшыць жыцьцё...

Але вернемся да вашага пытаньня. Мой адказ можа падацца сухім і нават сумным, але гэта тое самае, што хвалюе сёньня кожнага. Пра становішча ў рэспубліцы я думаю тое, што і вы: гэта сапраўдная трагедыя народа. Галоўная праблема - як выйсьці з гэтага тупіка. Не, я не прывёз яшчэ адзін амерыканскі рэцэпт выратаваньня. І не толькі з этычных поглядаў. Проста мне не трэба было гэта рабіць. Яшчэ ў 1989 годзе я прапаноўваў выйсьце, у правільнасьці якога цяпер яшчэ больш упэўнены...

**- Можа, кораценька раскажаце аб гэтым чытачам "Пагоні"?**

- З задавальненьнем. У рэспубліцы гістарычна склаліся дзьве зоны: усходняя, дзе пануе індустрыя, і заходняя, дзе галоўная - сельская гаспадарка. Задамо пытаньне: дзе сёньня, горш ці лепш, але пастаянна працуюць і даюць каштоўную прадукцыю? Там, дзе асноўная сельскагаспадарчая зона, там, дзе, дзякуй Богу, не разбурана сялянская гаспадарка (будзь то калгасы, саўгасы ці фермерскія гаспадаркі). Вось і напрошваецца вывад аб галоўным зьвяне выхаду з крызісу: няма патрэбы ў буйных інвестыцыях, але ўсё, што можна, трэба ўкласьці ў заходнюю зону, не "размазваючы" крэдыты.

У Амерыцы я зразумеў, якое мноства прадпрыемстваў павінна быць занята перапрацоўкай сельгаспрадуктаў і наогул адыходаў. Калі такіх прадпрыемстваў не хапае, трэба зрабіць затраты. Яны, паверце, акупяцца хутка. Нават пры тым жа аб'ёме сельскагаспадарчай вытворчасьці.

**- Так, але што рабіць з нашымі гігантамі індустрыі? Калі не даваць ім фінансавай дапамогі, яны асуджаны на скарачэньне вытворчасьці...**

- Яны і так часта стаяць, а хутка мы не пазьбегнем і поўнага спыненьня цэлага шэрагу "гігантаў". Дык давайце будзем лічыць гэты перыяд не новай перабудовай, а "перадышкай", часам, адпушчаным на канверсію. Так, многія людзі часова апынуцца без працы. Але галоўнае - будзе чым іх карміць. Чаму не стварыць, скажам, арганізацыю, аналагічную амерыканскай Арміі Выратаваньня, але разам з тым паставіць індустрыяльнаму ўсходу жорсткія ўмовы, устанавіць строгі кантроль, калі хочаце, дыктат? Цэх за цэхам павінны праходзіць структурную перабудову і пачынаць выпуск прамысловых тавараў, неабходных насельніцтву. Падкрэсьліваю, людзям, а не ваенна-прамысловаму монстру, як пра гэта яшчэ марыць многія дырэктары.

І як толькі злучыцца наш беларускі Захад з нашым жа беларускім Усходам праз тавараразварот, праз рынак, - узьнікне нармальная эканоміка...

**- Шмат пытаньняў узьнікае з нагоды сувязей з Расеяй. Што вы думаеце пра гэта?**

Толькі неразумны чалавек можа быць супраць цесных сувязей з нашым усходнім суседам. Але не трэба будаваць ілюзій, якія, дарэчы, начыста адсутнічаюць у Амерыцы: у Расеі вольных капіталаў няма і ў бліжэйшыя гады не будзе. Значыць, не трэба фантазіраваць, як увайсьці ў Эўропу, трэба думаць пра тое, як Эўропа і ЗША прыйдуць да нас. Гісторыя вучыць: усе прамысловыя пад'ёмы нашай краіны былі зьвязаны з магутным прылівам замежнага капіталу.

**- Але як яго сюды прыцягнуць?**

- Паверце, у ЗША наогул нічога не ведаюць пра Беларусь. Але калі мы створым такія льготы для замежных інвестараў, якіх няма нідзе ў СНД, уключаючы і іх права на прыватную ўласнасьць на зямлю, яны прыйдуць сюды (і гэта мне гаварылі асабіста прэзідэнты кампаній, мільянеры). Прыйдуць не дзеля таго, каб грабіць. Грабіць тут няма чаго. Яны прыйдуць, каб паставіць справу на падставе сучасных тэхналогій, атрымаць законны прыбытак і тым самым унесьці свой рэальны ўклад у пераадоленьне крызісу.

**(Заканчэньне будзе).**

# ТЭЛЕПРАГРАМА

## 2 ПЯТНІЦА

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 Навіны 8.10 Пяць хвілін на жарты 8.15 Дайджэст 8.25 "Бюро знаходак",мульт 9.00 Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва 9.25 "Добрыя намеры", с. 3 10.20 "Крылы, ногі, хвасты", мульт 10.25 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок": "Наўцілус" 10.45 "З чаго пачынаецца Радзіма" 11.05, 16.40 "Бімбат" 11.25 "Дыназаўрыкі" 12.00 "Джон Рос. Афрыканскія прыгоды" 12.35 "Пасля 2000 года" 13.30 "Над намі не капае", мульт 13.35 "Белая костка", м/ф 15.10 Канкур 16.10 "Еўропа сёння" 17.00 Навіны 17.10 "І добрым словам адгукнецца..." 17.35 "Я чую цябе, мама!. Рэабілітацыйны цэнтр для дзяцей 18.10 Навіны (Магілёў) 18.25 Кантакт 18.35 Навіны ВВС 19.10 Эканамікст 19.20 VII Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі ў Віцебску, ч. 2 19.50 Эканамічная хваля 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Пад купалам Сусвету 21.50 Дайджэст 22.00 На сесіі ВС РБ; Пяць хвілін на жарты; VIII Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі ў Віцебску. Гала канцэрт; "Інтэрдзяўчынка", м/ф

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

5.30, 7.00 Раніца 6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 17.50, 20.00, 23.00 Навіны 8.00 "Сарока" 8.25, 18.20 "Дзікая Роза" 9.00 Медыцына для цябе 9.30 "Кішэннік", мульт 14.00 Улада і рэформы 14.15 Наш прагноз 14.20 Хроніка дзелавога жыцця 14.30 Да вашых паслуг 14.40 Шоу-бізнес 15.00 "Не пакідай", м/ф, с. 2 16.10 Тэніс. Кубак Дэвіса. Фінал. Расія — Швецыя 17.00 Свет сёння 17.10 Чалавек і закон 17.40, 20.30 Надвор'е 17.45 "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". А. Німеер 18.00 Бамонд 18.50 Поле цудаў 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.40 Чалавек тыдня 21.00 "Вуліцы Сан-Францыска" 22.00 Адзіны дубль 23.10 На шахматнай Алімпіядзе 23.20 Музагляд 24.00 Прэс-экспрэс 0.10 Іверскае сэрца

### КАНАЛ "РАСІЯ"

6.30 Формула-730 7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.20 Патрабуюцца... патрабуюцца... 7.30 Час дзелавых людзей 8.00 Навіны АВС 8.25 Паехалі 8.35 Ранішні канцэрт 8.50 У свеце жывёл 9.45, 19.35 "Санта-Барбара" 10.35 Тэлегазета 10.40 Сялянскае пытанне 11.05, 13.20 "Дзелавая Расія" 13.45 "Легенда пра Галвата", мульт (ЗША) 15.10 Рэпартажы з месцаў 15.20 Студыя "Рост" 15.50 Там-там навіны 16.05 Свята кожны дзень 16.15 Новая лінія 16.30 На Сусветнай шахматнай алімпіядзе 17.00 Дысней па пятніцах 18.00 Спартыўная праграма 19.25 Падрабязнасці 20.30 Маскі-шоу 21.10 "К-2": "Фрак народа" 22.20 Рака часу 22.25 Аўтаімгненне 22.30 Спартыўная карусель 22.35 Шахматная ліхаманка 22.50 "Структура крышталя", м/ф (Польшча) 0.25 Зоркі гавораць

### САНКТ - ПЕЦЯРБУРГ

12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ 12.10 Чароўная лінія 12.25 "Нямецкая хваля" 12.55, 14.45, 17.50, 19.05 Музычны момант 13.00 Хуткая дапамога 13.30, 22.05 "Глушак", с. 10 14.00 "Еўрапейскі калейдаскоп" 14.50 "Утаймавальніца тыграў", м/ф 16.30 Па ўсёй Расіі 16.40 "Айгуль", канцэрт 17.10 Кідайка 17.55 Храм 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.10 Вялікі фестываль 19.25 "На цябе спадзяюся", м/ф 20.50 "Следства вядуць Калабкі", мульт 21.10 Тэлемагазін 21.15 Тэлеслужба бяспекі 21.45 Спартыўныя навіны 22.00 Ваш стыль 22.40 "Легенда пра Джэдэдыа Карвеса", м/ф (ЗША)

### ПОЛЬШЧА-1

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкаляты дома. 11 00 "Маладыя яздакі". Фільм вытв. ЗША. 11 45 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Сшый сама. 12 30 Журнал нацыянальных меншасцяў. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнес. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Селькозяйственная праграма. 13 40 Наш госць - Венгерскае тэлебачанне. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычны тэлетурнір. 16 30 Танцавальны турнір. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлечасопіс. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлечасопіс спажыўца. 19 05 Спатканне ўцёмную. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Найцудоўнейшы". Камедыя вытв. ЗША. 22 45 Пульс дня. 23 05 Чвэрць гадзіны. 23 35 Уручэнне ўзнагарод акадэміі юмару. 00 00 Навіны. 00 15 Спартыўная студыя. 00 45 Уручэнне ўзнагарод акадэміі юмару. 01 15 "Рытм вуліцы". Фільм вытв. ЗША.

### ПОЛЬШЧА-2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Ранішні госць. 08 30 Курс ангельскай мовы. 08 40 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв. Даніі. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15·55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "З дзевяці да пяці". Камедыйны серыял вытв. ЗША. 18 00 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Адзін з дзесяці. 20 35 Тэлечасопіс. 21 00 Публіцыстычная праграма. 21 50 Тэлечасопіс. 22 00 Панарама. 22 30 Забаўляльная праграма. 23 05 "Крывавы клан". Фільм вытв. Канады. 01 00 Панарама. 01 05 Спорт. 01 15 Спартыўная студыя.

## 3 СУБОТА

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 Навіны 8.10 Дайджэст 8.20 Аэробіка 8.50 Пяць хвілін на жарты 8.55 Эканамікст 9.05 "Існасць" 10.00 "Берасцейскія далягляды" 11.00 Паэзіі радок чароўны... 11.05 Здароўе 11.35 Мультфільмы 12.10 "Рагаты бастыён", м/ф 13.50 Чэмпіянат свету па мотагонках-94 14.25 "Лулу — анёл кветак" 15.00 "Бар'еры" 15.30 "Планета людзей" 16.05 "Запрашаем на вячоркі" 17.30 "Крылы" 17.55 Тэлемагазін 18.05 "Чарапашкі ніндзя" 18.30 Фаварыты года 18.45 Пяць хвілін на жарты 19.00 "Нов і К"-топ-10 20.00 Міжнародныя спартыўныя навіны 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Пад купалам Сусвету 21.50 "Саламяны капялюш", м/ф 24.00 Дзелавы веснік 0.15 "Каскад" 0.35 Відзьманявідзьма 1.35 "Паўнеба", м/ф (Іспанія)

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

6.30 Раніца дзелавога чалавека 7.15 Спортшанц 7.45 Слова пастара 8.00 Покліч джунгляў 8.30 Кампанія "Мір" 10.00 Ранішняя пошта 10.30 Да Міжнароднага дня інвалідаў 11.00 Без паўзы 11.10 Смак 11.25 "Вялікі суцяшальнік", м/ф 13.20 "Непадарожныя нататкі" Д. Крылова 13.50, 22.35, 23.50 Навіны 14.00 "Спасціжэнне дэмакратыі", ч.9 14.55 "Жыццё заапаркаў" 15.35 Шчаслівы выпадак 16.30 Да і пасля 17.25 "... І правасуддзе для ўсіх", м/ф 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Навіны плюс 20.35, 22.50 Надвор'е 20.45 Што? Дзе? Калі? 21.55 Акадэмія 22.45 На шахматнай алімпіядзе 22.55 "Смерць неапалітанскага матэматыка", м/ф (Італія)

### КАНАЛ "РАСІЯ"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.25 Кліп-антракт 7.30 Студыя "Рост" 8.00 Пілігрым 8.45 Парламенцкі тыдзень 9.30 Тэлеэрудыт 9.35 "Музыка ўсіх пакаленняў" 10.05 Як жыць будзем? 10.50 "Яны змагаліся за Радзіму", м/ф, с. 1 12.40 Сялянскае пытанне 13.20 Дэ факта 13.35 "Эдэра" 14.30 Футбол без межаў 15.15 "Вязень Зенды", мульт (ЗША) 16.10 На Сусветнай шахматнай алімпіядзе 16.40 Тэлеэрудыт 16.45 Шарман-шоу 17.45 Свята кожны дзень 17.55 Спартыўная праграма 19.25 "Успаміны пра Геркулесавыя воды", м/ф (Венгрыя) 21.05 Зусім сакрэтна 22.20 Рака часу 22.25 Аўтаімгненне 22.30 Спартыўная карусель 22.35 Шахматная ліхаманка 22.50 Праграма "А" 23.50 "Перасцярога святой распусніцы", м/ф 1.35 Зоркі гавораць

### САНКТ - ПЕЦЯРБУРГ

8.55 "Гадзіна Фрэйзера" 9.30 Чароўная лінія 9.45 "Дзень казак", муз фільм 10.15 "Школа памочнікаў", мульт 10.30 А.Пушкін. "Яўгеній Анегін". Чытае М. Ульянаў 11.25 Музыка на заказ 12.05 "Прагулка ў рытмах стэпа", муз. фільм 13.00 Хуткая дапамога 13.30 "Андрэй Рублёў", м/ф 16.35 Я і мой кот 16.50 "Вывад войск. Элегія", д/ф (Германія) 17.15 Студыя "Уяві" 17.25 Антрэ 17.45 "Следства вядуць Калабкі", мульт 17.55, 21.15 Уік-энд з дэтэктывам 18.30, 21.30 Інфарм ТБ 18.50 Экспрэс-кіно 19.10 Вялікі фестываль 19.25 "Страсці", м/ф 21.00 У. Высоцкі. Песні-маналогі 21.45 Ваш стыль 21.55 "Не хочаш — не глядзі" 23.05 "Белыя ночы", спектакль паводле рамана Ф. Дастаеўскага

### ПОЛЬШЧА-1

08 00 З Польшчы. 08 10 Кращу адказаць. 08 25 Усё аб агародзе. 08 50 Агралінія. 09 30 Спартыўны тэлечасопіс. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Дакументальны фільм. 12 50 Спартыўная студыя. 13 00 Навіны. 13 10 Тэлечасопіс. 13 40 Жывёлы свету. 14 10 Мультфільмы У.Дыснея. 15 30 Тэлетэатр. 16 50 Краіна. 17 25 "Сямейнае прадпрыемства". Камедыйны серыял вытв. Польшчы. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Спартыўная праграма. 19 05 "Беверлі Хілз". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Дзіцячы тэлечасопіс. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Хакітонк ман". Фільм вытв. ЗША. 23 20 Звычайнае - незвычайнае. 00 20 Навіны. 00 30 Спартыўная субота. 00 45 Фестываль апаратараў. 01 10 "Маўклівая флейта". Фільм вытв. ЗША. 02 45 "Бабнік". Фільм вытв. Францыі.

### ПОЛЬШЧА-2

08 00 Панарама. 08 10 Музычная раніца. 08 30 Такія адзінокія. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Таварыства ў культуры. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Рэпартаж. 11 30 Праграма аб жывёлах. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 15 05 Тэлечасопіс. 15 30 Жыццё побач з намі. 16 00 Спартыўная студыя. 16 30 Тэлечасопіс. 17 00 "Усё акрамя кахання". Серыял вытв. ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Семь дзён - свет. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Тэлечасопіс. 21 00 Дазволена ад 40 гадоў. 21 50 Тэлечасопіс. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Музычны часопіс. 23 00 Тэлечасопіс. 23 15 "Бутч і Сандэнс". Вестэрн вытв. ЗША. 01 05 Панарама. 01 10 Спартыўная студыя.

## 4 НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 Аэробіка 8.30 Пяць хвілін на жарты 8.40 Слова да чалавека 9.10 Справы вайсковыя 9.55 Добрыя весткі 10.05 Урокі здароўя 10.25 "Тэлебом" 11.05 "Вас выклікае Спартландыя" 11.55 "АВС-клуб" 12.10 "Планета людзей" 13.10 Праспект 13.40 Адкрыты эфір. Міністр унутраных спраў РБ М.Захаранка 15.45 "Чарапашкі ніндзя" 16.10 "Усе ва ўсмешку" 16.45 "Мужчына і жанчына праз 20 гадоў", м/ф (Францыя) 18.35 Хакей. "Цівалі" — "Крылы Саветаў" 19.15 Аўтапарк 19.35 Фаварыты года 20.00 Панарама 20.40 Калыханка 21.00 Пяць хвілін на жарты 21.10 Пад купалам Сусвету 21.20 Вячэрні роздум 2!.30 "Музыка без межаў". Успаміны пра будучае 22.15 "Сінема" прадстаўляе кінематограф Францыі 22.20 "Дэлікатэсы", м/ф

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

7.15 Алімпійская раніца 7.50 Спортлато 8.00 Марафон-15 8.30 Раным-рана 9.00 Палігон 9.30 Пакуль усе дома 10.00 Ранішняя зорка 10.50 Пад знакам "пі" 11.35 Фестываль "Вясёлка" 12.10 Эканоміка і рэформы 12.40 "Шпаргалка" з падарункам 13.00 "Падводная адысея каманды Кусто" 13.50, 17.00, 22.50, 23.50 Навіны 14.00 "Стратэгія Перамогі", ч. 10 14.55 Клуб падарожнікаў 15.45 Тэніс. Кубак Дэвіса. Фінал. Расія — Швецыя 16.30 Акно ў Еўропу 17.05 Тэлелоцыя 17.25 Мультфільмы (ЗША) 18.20 Малыя гарады Расіі 18.50 Надвор'е 19.00 "Знойдзеш сябра — набудзеш скарб", м/ф (Італія) 21.00 Нядзеля 21.50 Спартыўны уік-энд 22.05 "Часоў сувязная ніць". Г. Свірыдаў 23.00 На шахматнай алімпіядзе 23.05 Каханне з першага погляду

### КАНАЛ "РАСІЯ"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.25 Студыя "Рост" 7:55 Наш сад 8.25 "Снеданне для чэмпіёнаў" 8.55 Рэпартажы з Іспаніі 9.25 "На цябе, Гасподзь, спадзяюся", д/ф 9.45 Аты-баты... 10.15 Рускае лата 11.00 "Яны змагаліся за Радзіму", с. 2 12.15 Б. Бартак. "Дывертысмент для струннага аркестра" 12.40 Сялянскае пытанне 13.20 Не высечы... 13.35 "Эдэра" 14.25 Кліп-антракт 14.30 Белая варона 15.15 Лепшыя гульні НБА 16.15 Свята кожны дзень 16.25 На Сусветнай шахматнай алімпіядзе 17.00 Чароўны свет Дыснея 17.55 Спартыўная праграма 19.25 "Імпульс", м/ф 21.00 "Снічы", мульт 21.15 Каробка перадач 21.25 У Ксюшы 22.20 Рака часу 22.25 Аўтаімгненне 22.30 Спартыўная карусель 22.35 Шахматная ліхаманка 22.50 Вячэрні салон 23.50 Зоркі гавораць

### САНКТ - ПЕЦЯРБУРГ

8.55 Гаючае слова 9.30 Чароўная лінія 9.45 Казка за казкай 10.20 "Таму, штоў кузні не было цвіка", мульт 10.30 Экспрэс-кіно 11.00 Нядзельны лабірынт 12.30 "Малыш і гарэзнікі", м/ф (Венгрыя) 13.40 П. Чайкоўскі. "Іаланта" 15.25 Чэмпіянат Італіі па футболе 17.20 Этнасы Зямлі 17.50 Залаты ключ 18.05 Зебра 18.50 "Парк Горкага" ў Санкт-Пецярбургу 19.30 Інфарм ТБ 19.50 "Бег па сонечным баку",м/ф 21.25 Ваш стыль 21.45 "Пастка для ваўка", спектакль 22.55 Лепшыя з лепшых 23.40 Адам і Ева

### ПОЛЬШЧА-1

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Далёка і блізка. 08 30 Тыдзень. 09 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 25 Праграма дня. 09 30 Нядзельная кінапраграма. 09 55 Праграма для дзяцей. 10 10 Тэлераніца. 10 40 Музычная скрыня. 11 00 Серыял вытв. Канады. 12 00 Навіны. 12 10 Дакументальны серыял. 13 05 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 35 З камерай сярод звяроў. 13 50 Цырк фізікаў. 14 10 За сямю гарамі. 14 50 У старым кіно. 16 35 Сто пытанняў. 17 10 Забаўляльная праграма. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Варта пасмяяцца. 19 00 "Дінастыя Колбі.". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Што лепей". Серыял вытв. ЗША. 22 05 Спартыўная нядзеля. 22 30 Дакументальны фільм. 22 50 Публіцыстычная праграма. 23 20 Вечар з Аліцыяй. 00 20 Фестываль кінааператараў. 00 30 "Тры ўзоўні над Зямлей"'. Фільм вытв. Польшчы. 01 55 Канцэрт.

### ПОЛЬШЧА-2

08 00 Рэха тыдня. 08 30 Фільм для глухіх. 09 15 Слова на нядзелю. 09 20 Музычная праграма. 09 30 Шленск у малюнках. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Дакументальны фільм. 11 30 Тэлечасопіс. 12 00 Мультфільмы для дзяцей. 13 00 "Лукі Лук". Серыял вытв. Італіі. 14 15 Тэлечасопіс. 15 00 Барбарка ў Каткавіцах. 15 55 Мультсерыял. 16 00 Тэлетэатр для дзяцей. 16 35 Тэлечасопіс. 16 50 Другая праграма. 17 00 "Як ёсць". Серыял вытв. Польшчы. 17 30 Тэлечасопіс. 18 00 Музычная праграма. 18 30 Тэлечасопіс. 19 00 Падзеі тыдня. 19 25 Спартыўная студыя. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Мультфільм. 21 00 Размова аб Шленске. 21 50 Вялікі аркестр святочнай дапамогі. 22 00 Панарама. 22 30 Тэлечасопіс. 22 40 Праграма кабарэ. 23 25 "У цяньку дзікіх пальмаў". Серыял вытв. ЗША. 00 10 Тэлетэатр. 01 15 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя.



## АБ'ЯВЫ



### ПРАДАЮ

* каробку перадач чатырохступеньчатую да легкавіка "Форд Гранада", нядорага. Тэл.: 33-30-93, 47-10-07
* відэаплеер пішучы "Самсунг". Зьвяртацца: вул.Церашковай, 15, кв.105, пасьля 17.00
* пішучую машынку "Каньціненталь" з нямецкім шрыфтам. Тэл.: 47-17-28
* печ-"буржуйку" з камплектам труб для дымавода. Тэл.: 31-51-61
* арэнбургскія пухавыя хусткі коштам 25 доляраў ЗША. Тэл.: 31-75-79, тэлефанаваць з 14.00 да 16.00
* мікравалновую печ. Тэл.: 2-10-88
* відэаплеер коштам 150 доляраў ЗША. Тэл.: 31-14-68
* дзіцячае харчаваньне СМА. Тэл.: 5-39-56
* сіямскіх кацянят. Тэл.: 6-58-76
* дзяцячыя шубкі са штучнага футра на ўзрост 4-5 гадоў. Зьвяртацца: вул.Томіна, 14-А, кватэра 101, пасьля 18.00
* пакрышкі для легкавікоў, грузавікоў, аўтобусаў і сельскагаспадарчай тэхнікі з краін Захада і СНД. Тэл. у Вільні: 35-13-14, 26-77-39, 35-13-82
* тканіну (габелен) для абіцьця мяккай мэблі. Тэл.: 6-36-46
* шчанюкоў дабермана. Тэл.: 6-50-73

### МЯНЯЮ

* кватэру ў Скідалі (тэлефон, прыродны газ, 20 сотак прысядзібнага надзелу, вішнёвы сад, гаспадарчыя пабудовы) на любую асобную кватэру ў Горадні. Тэл.: 33-30-93, 47-10-07
* прыватызаваную кватэру ў цэнтры горада Чарнігава (Украіна), плошчай 17 кв.м., кухня - 6 кв.м., з тэлефонам, 2-гі паверх, на раўнацэнную кватэру ў Горадні. Зьвяртацца на адрас: Украіна, 250000, г.Чарнігаў, вул. Леніна, 45, кв.35. Тэл.:79992

### ЗДАЮ

* гараж у раёне КБМ. Тэл.: 33-50-92
* гараж у раёне вул.Мікалаева. Тэл.: 2-75-58

### ПАСЛУГІ

Вырабляем і прадаем ваконныя рамы і дзьверы філінгаваныя (адзінарныя і падвоеныя). Тэл.: 45-39-98, 31-33-30

